22

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР



ПРАЦОЎНАЯ ШКОЛА ДЛЯ БЯСПРЫТУЛЬНЫХ.

На малюнку—гурток вышываньня пры Менскім клюбе бяспрытульных.

# Піонэры і школьнікі—на дапамогу „ОЗЕТ‘у“.

„ОЗЕТ“—гэта такая грамадзкая організацыя, якая ставіць сабе мэтай дапамагчы зямляўпарадкаваць працоўных яўрэяў у СССР.

Перад піонэрамі і школьнікамі можа паўстаць пытаньне—навошта патрэбна спэцыяльнае таварыства, калі зямляўпарадкаваньне беларускіх, польскіх сялян праходзіць без усякіх таварыстваў?

А справа вось у чым: у часе царскага самаўладзтва Расія была турмою для народаў. І асабліва прыгняталася яўрэйская нацыя: не давалі яўрэям апрацоўваць зямлю і выганялі з вёсак. Ня пускалі працаваць на чыгунках, фабрыках і заводах і ў буйных гарадох Расіі. (Была асаблівая „черта оседлости“, дзе яўрэйскай беднаце можна было жыць). Гэта прымушала большую частку яўрэйскага насельніцтва, якое было сабрана ў гарадох і мястэчках, займацца дробным гандлем і саматужніцтвам.

Пры Савецкай уладзе, калі коопэрацыя кожны дзень усё больш і больш выціскае дробны гандаль, ствараецца цяжкое эканамічнае становішча для бедноты мястэчак і гарадоў, якая ня мае чым заняцца.

Што-ж робіць партыя і Савецкая ўлада, каб палепшыць гэтае становішча?

Партыя і Савецкая ўлада добра ведаюць, што патрэбна перабудова эканамічнага стану яўрэйскай бедноты, і ў зьвязку з гэтым праводзяць зямляўпарадкаваньне: пераводзяць яўрэяў на зямлю. Мы ўжо ў сучасны момант на Беларусі маем сотні яўрэйскіх сельска-гаспадарчых колектываў, якія добра працуюць і карыстаюцца аўтарытэтам сярод вакольнага насельніцтва.

Але праца партыі і Савецкае ўлады ў гэтым напрамку недастатковая, бо гэтая справа вельмі вялікая і цяжкая. Трэба браць людзей з гарадоў і мястэчак, пераводзіць іх на зямлю і вучыць гаспадарыць, бо гэтыя людзі зямлі ніколі не апрацоўвалі. Вось чаму патрэбна шырокая дапамога ўсіх рабочых і сялян, моладзі і дзяцей у гэтай вялікай справе. І сюды на дапамогу прыходзіць спэцыяльна організаванае таварыства ОЗЕТ, якое прымае вялікі ўдзел у гэтай справе. З 20-га лістапада да 20-га сьнежня ЦК ЛКСМ Беларусі разам з „Озетам“ праводзіць спэцыяльны месячнік па ўзмацненьню сваёй працы ў „ОЗЕТ“. У часе месячніка неабходна, каб піонэры і школьнікі прымалі актыўны ўдзел па замацаваньню сваёй працы ў „ОЗЕТ“.

Што неабходна канкрэтна зрабіць?

Распачнеце організоўваць ува ўсіх піонэратрадах і школах групы сяброў „ОЗЕТ‘у“, праводзьце гутаркі аб мэтах працы організацыі „ОЗЕТ‘а“ і чым павінны дапамагаць піонэрорганізацыі таварыствам „ОЗЕТ‘а“, огранізуйце вечары „ОЗЕТ‘у“, куткі, прыцягваючы туды да працы настаўнікаў, комсамольцаў, працуючых у „ОЗЕТ“. Праводзьце растлумачэньні сярод сваіх братоў і бацькоў аб неабходнасьці ўступленьня ў шэрагі „ОЗЕТ“. Наладзьце сувязь паміж групамі сяброў „ОЗЕТ“ з дзецьмі сельска-гаспадарчых колектываў, правёўшы туды экскурсіі і замацаваўшы сувязь пісьмовую з імі.

Піонэры і школьнікі! Не павінна быць ніводнага атраду, фарпосту і школы, якія-б не організавалі групы сяброў „ОЗЕТ‘а“ і не паставілі добра працу ў гэтай групе!

**С. Шнэйдар.**

## З Ь М Е С Т.






Рэдколегія: БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., СЬЦЯПАНАЎ Х., ЯКІМОВІЧ А.

Адказны рэдактар А. ПЯКАРЧЫК.

Год выданьня 4-ты.

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!




**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 22** **ЛІСТАПАД** **1928 г.**

# У КАРЫСЬЦЬ ДЗЯРЖАВЕ.



*Зараз комсамолам абвешчан 2-тыднёвік па збору лому. На малюнку піонэры ў час працы.*




Апавяданьне *М. Белякоўскага.* Малюнкі *А. Абрамава.*

I.

Скача, кружыцца і сыпле сьнегам шалёная завіруха; разгулялася яна ў чыстым полі на вольным прасторы. Ёсьць дзе разыйсьціся буры і ветру: далёка кругом разьляглося роўнае белае поле, і нішто не перашкаджае ветру з сьвістам і гулам імчацца над зямлёю, падымаць белымі слупамі дробны сьнег і зноў кідаць яго на зямлю.

Толькі чуць прыкметна на небасхіле вёска. Сярод цемры і віхрастай пялёнкі сьнягоў блішчаць яе маленькія аганёчкі.

Двароў 50 мае вёска. Вецер з поля са злосьцю налятае на невялічкія хаты, якія, прытуліўшыся адна да аднэй, абапал ашчарэпілі вуліцу.

Вецер цярэбіць саламяныя стрэхі хлявоў; праз дзіркі і шчыліны ў сьценах урываецца ў сярэдзіну, захапляючы з сабою дробны-дробны, белы сьнегавы пыл.

Абвее ён сваім халодным дыханьнем коняй, кароў, і дрыжыць бедная жывёліна ад нечаканага налёту яго. Злосна дзьме вецер з-за кожнага кута хлявоў і хат, чысьценька вымятае адно месца і насыпае гурбы на другім; ляціць ён уздоўж вясковай вуліцы і, круцячы сьнег, б'е ім у вакно, як-бы сярдуючы, што ня можа загасіць яркі аганёчак у хаце.

Ён ляціць над вёскай, залятае ў комін і доўга і нудна вые там і плача; а то яшчэ з наскоку хлопае незачыненаю хворткаю на двары ці заскрыпіць жаласна варотамі.

У большасьці хат патухлі вагні, і глядзяць неяк таемна і хмурна чорныя вокны. Глуха і ціха зьвіняць яны, калі вецер з сілаю ўдарыць аб шыбы сьнегам.

Толькі ў аднэй хатцы сьвецяцца яшчэ вокны. Яна стаіць амаль што на краю вёскі, асобна ад другіх. Тут вальней гуляць неўгамоннаму ветру; кружыць ён наўкол невялічкай хаты і засыпае двор усё болей і болей.

Няхітрае аздабленьне і ўбраньне ў гэтай хаце, няхітрая яна сама: у ёй адзін, сярэдняй велічыні, пакой; значную частку яго займае вялікая печ, пабеленая ў мінулым годзе; яна стаіць налева, як зайсьці ў хату. У правым куту стаяць абразы на старэнькай паліцы; некалькі пажоўклых і палінялых папяровых кветак убіраюць іх; тут-жа стаіць аднаадзінютка, таксама зьлінялая, фотографічная картка. Мабыць, калі-небудзь, адзін раз у жыцьці, зьнялася, разам з нябожчыкам-бацькам, уся сямейка, якая тут жыве. На правай сьценцы прыбіта некалькі полак; старыя газэты з выразанымі ўзорамі пакрываюць іх; там стаіць

некалькі гладышоў ды місак, ды ляжыць тры-чатыры драўляныя лыжкі. Пад полкамі, ля сьценкі, стаіць досыць вялікая, зьбітая з простых дошчак, скрыня. Каля левай сьцяны, пачынаючы ад печкі, пастаўлены дзьве шырокія лавы; яшчэ адна лава каля пярэдняй сьцяны. Два табарэты сярод хаты, розны дробны скарб, некалькі цэбраў, вёдзер у куту, налева ад дзьвярэй, — і ўсё ўбраньне хаты. У пярэдняй і правай сьценцы ёсьць па адным вакне. Адна шыба вакна выбіта і забіта старым кавалкам фанэры; падвойных вокнаў няма.

На камінку дагарэла лучына і тлеюць вугольлі, на стале стаіць маленькая капцілка. Вецер прадувае праз шчыліны ў вокнах, і ад яго подыхаў маленькі агоньчык калышацца ва ўсе бакі і асьвятляе дрыжачым слабым сьветам цёмныя сьцены, падлогу, з шырокімі шчылінамі, і печку, унізе якой чарнее падпечак.

Ужо старая, згорбленая жанчына схілілася над шырокаю лаваю, дзе ляжыць, пакрыты палінялаю даматканаю посьцілкаю і старым залатаным кажухом, малады мужчына з бледным худым тварам і закрытымі вачыма. На другой лаўцы хлопец, гадоў 12, распранаецца і лажыцца спаць. Ён з трывогаю пазлядае на матку і на хворага.

— Ну што, сынку? Можа палягчэла трохі?—пытаецца маці і кладзе руку на гарачы лоб хворага: — Як табе, Міхале?..

Міхал ледзьве адкрывае вочы.

— Мне нічагусенькі, мамка! Праз некалькі дзён можа і ўстану! — Ён трохі падняў голаў, але скора яна бясьсільна ўпала на тонкую кужэльную падушку.

— Заўтра трэба на пошту ехаць у мястэчка, а я...

Ён не дагаварыў і моцна закашляўся. Здавалася, кашаль рве яму грудзі, хоча зусім перарваць іх. Міхал схапіўся рукою за грудзі; яму здавалася, што нешта гострым цьвікам дзярэ там унутры, усё адно й тое месца.

— Зноў пошта?.. — уздыхае маці:—а хто-ж за ёю паедзе? Да няхай яна лепш цяміцца гэтая работа! Абы толькі ты, Міхал, хутчэй ачуняў! Як цябе схапіла акаянная хвароба. Уздыхнуць кашаль не дае...

Міхал адкашляўся трохі і хацеў гаварыць, але кашаль раптам накінуўся з яшчэ большаю сілай. Як нажом рэзала нутро, разрывала ўсё больш ды больш балючую рану. Прайшло хвілін пяць, пакуль Міхал мог гаварыць. Ён гаварыў сіплым голасам.

— А паехаць на пошту трэба было-б! Тут ужо акуратна трэба рабіць... Што будзе, калі другога наймуць замест мяне?..

— Яно і праўда,—разважае маці,—гаспадарка наша бедная, заработкам толькі тваім сяк-так падтрымліваемся. Страціць заработак ад пошты—тады жыць нам няма як будзе... Але не Андрэю-ж ехаць за адзінаццаць вёрст у такую завіруху!.. І сама ня ведаю, як быць!—уздыхае яна, прыгатаўляючы сабе на печы просьценькую пасьцель.

— А чаму й ня мне?—адгукнуўся Андрэй з лавы і, сеўшы на пасьцелі, сур'ёзна паглядзеў на маці.—Я ўлетку некалькі разоў езьдзіў у мястэчка, а цяпер у лес за сухастоем заўсёды ежджу...

— Як-жа гэта ты, такі малы, заедзеш у гэткую пагоду?! Адна справа—улетку, а другая—зімою. Што-ж гэта ты выдумаў?—нездаволена пытае яна.

Зноў глыбокі ўздых вырываецца з яе грудзей.

— Калі Міхась хворы, то хто-ж з нас паедзе?

Андрэй перавярнуўся на другі бок, да сьценкі. Можна было заўважыць, што ён нешта задумаў.

Андрэй добра ведаў становішча сям'і. Яшчэ пры бацьку яно было незавіднае, а пасьля яго сьмерці жыцьцё яшчэ пагоршылася. Міхал прыстроіўся вазіць пошту два разы ў тыдзень у сваю вёску з мястэчка. Вёска ляжала нейк у бок ад другіх, і пакуль што яе не захапіла кальцавая пошта. Страціць заработак для Міхала было-б сапраўдным няшчасьцем. І ў Андрэя ўжо злажыўся плян: памагчы бядзе. А для гэтага трэба было зьезьдзіць на пошту ў паштовае аддзяленьне.

Маці патушыла газоўку, і ў хаце запанаваў глыбокі чорны змрок.

Усе заснулі, а завіруха спраўляла кругом хаты сваё ігрышча.

Назаўтра Андрэй устаў разам з маткай, калі яшчэ было цёмна. Маці спачатку

прабавала ўгаварыць яго яшчэ паспаць, але ён устаў і рашуча ўзяўся за справу. Перш-на-перш ён пайшоў у хлеў і залажыў кабыле сена, трохі больш, чым заўсёды. Ідучы з хаты, ён пасьпеў выцягнуць з братавай сьвіткі ключ ад паштовае скрынкі, якая была прыбіта на аднэй з суседніх хат. З хлява Андрэй вышаў на вуліцу. Завіруха яго абсыпала цэлым роем сьняжынак. Ён уцягнуў галаву ў мацярынскі кажух (свайго ў Андрэя ня было; на ўсю сям'ю быў адзін кажух, калі ня лічыць старога, падранага кажуха Міхала) і, правальваючыся часам аж па пояс, пракладаў сабе шлях у сьнежных гурбах.

Праз некаторы час Андрэй быў ужо ля паштовае скрынкі. Лістоў было небагата. Адрасы былі напісаны адным досыць крывым почаркам. На ўсю вёску быў адзін хлопец грамацей, Янка Тадаровіч, які для ўсіх вясковых сялян пісаў па іх просьбе лісты. Андрэй трохі мог чытаць, вучыў яго той самы Янка, з якім яны былі прыяцелямі, і ў другі час ён з ахвотаю-б прачытаў па складох адрасы, але цяпер ён хутка сабраў адрасы, зачыніў скрынку і бягом кінуўся да хаты, грэзнучы ў гурбах. Ён хутка схапіў рыдлёўку і пачаў расчышчаць сьнег на вуліцы за варотамі, каб можна было іх адчыніць.


*Назаўтра Андрэй устаў разам з маткай, калі яшчэ было цёмна.*

Андрэй парашыў ехаць на пошту яшчэ ўчора, а сёньня, калі ён убачыў, што завіруха нават трохі сьціхла і сьнег больш ня йдзе, яго гэта яшчэ больш падбадзёрыла. Трэба было зрабіць так, каб маці нічога ня ведала да тэй пары, калі ён ужо паедзе і яго ня можна будзе затрымаць. Хоць каля хлява насыпана было некалькі гурбаў, двор, ад сянец аж да самых варот, быў вымецены ветрам, і маці, вышаўшы з хаты, не магла адразу ўбачыць сьлядоў Андрэя. Сьляды відаць былі перад самым пералазам, і ён зраўняў іх трохі рыдлёўкаю, каб яны ня кідаліся ў вочы.

— Ты сёньня нешта доўга капаўся ў хляве,—сустрэла яго маці:—зьнімай свой кажух; я парасяці есьці прыгатавала—трэба аднесьці!

З жывёлы ў гаспадарцы Міхала была толькі кабыла і сьвіньня. Карова здохла ад нейкае хваробы з месяц назад.

Пакуль што ўдача ўсьміхалася Андрэю. За той час, як маці насіла яду сьвіньні, ён узяў і засунуў за пазуху значную лусту хлеба і выпіў на дарогу, хоць яму і не хацелася, конаўку вады. Чэрпаючы ваду з дна амаль што пустога цэбра, Андрэй успомніў, што маці яшчэ пойдзе за вадой і ўбачыць, хоць ужо часткаю замеценыя, яго сьляды. Трэба ехаць раней, чым яна выправіцца за вадою...

Ужо зусім разьвіднелася. Андрэй з трывогаю паглядзеў на вакно. Пара было выяжджаць. Дзень хоць і прыбывае, але ўсё-ткі яшчэ вельмі кароткі. Андрэй думаў, якім-бы парадкам выйсьці на двор, хутчэй запрэгчы кабылу ды няпрыкметна для мацеры выехаць з двара.

Маці прышла з хляўчука з пустым вядром і моўчкі паставіла яго ў кут.

— Мама! Я пайду зараз напаю жывёліну. Учора я рана напаіў і чакаць да дня ўжо надта доўга.

— Што ты яшчэ выдумаў?—кажа маці.—Мне якраз здавалася, што ты, наадварот,—учора паіў позна, а ня рана. Ды і што гэта сягоньня табе захацелася? Ніколі зранку так не паіў?..

— Не, мама!—супярэчыць Андрэй.

Ён з усіх сіл адстойвае сваю просьбу, бо ад таго, ці ўдасца яму выйсьці на двор, залежыць посьпех яго справы.— Сёньня патрэбна паіць яе рана, і так колькі часу яна чакае?!.

— Ну, напой зараз! —урэшце, згаджаецца маці,—толькі нічога патрэбнага я ў гэтым ня бачу.

Андрэй хутка аддзяецца, бярэ вёдры і выходзіць з хаты. Ён рашае прынесьці ваду з калодзежа на двор і тут паіць кабылу, бо спадзяецца, што багата вады не патрэбна,—учора ён паіў кабылу вельмі позна.

Супроць чаканьня Андрэя кабыла выпіла амаль што поўныя два вядры, але пад канец не захацела піць: затрасла галавою ды адвярнула морду, потым зноў усадзіла яе ў вядро, панюхала ваду і тады ўжо рашуча адвярнулася. Андрэй выліў рэшту вады, потым выцягнуў на сярэдзіну двара сані, узяў за грыву кабылу, вывеў яе таксама на двор і пачаў запрагаць. Праз чвэрць гадзіны ўсё было гатова. Андрэй ціханька ўвайшоў у сенцы ды паставіў там вёдры. „Маці, мусіць, думае, што я вядро спусьціў у калодзеж“, думаў Андрэй. „Пачакае, пачакае, а потым ня сьцерпіць, апране стары кажух і выйдзе. Але я тады буду ў полі“.

Андрэй адчыніў вароты, палажыў тонкі пачак вынутых з скрынкі лістоў у кішэню кажуха, пакрыў кабылу старою дзіраваю посьцілкай, каб яна менш мерзла і пацягнуў за лейцы: „Но-о-о-о!“

Сані скрыпнулі і рушыліся. Андрэй нават не зачыніў варот. Ён надта сьпяшаўся. Яго трохі мучыла тое, што праз яго маці будзе насіць ваду ў старым кажусе. Але ён супакойваў сябе тым, што гэта толькі адзін раз і што неабходна ратаваць сям'ю, ня страціць заработку.

Андрэй пацягнуў за правую ляйчыну і выехаў у поле. Кабыла адразу пайшла цішэй. Пры пераезьдзе праз адну надта высокую гурбу сані амаль не перакуліліся. У полі завіруха круціла мацней, чым сярод хат у вёсцы, але вецер найбольш дзьмуў у сьпіну Андрэя і толькі зрэдку кідаў раптам яму ў твар сьнежны



*Праз некаторы час Андрэй быў ужо ля паштовае скрынкі.*

пыл. Хоць далей ужо ня было вялікіх сьнежных гурбаў і поле было амаль што роўнае, кабыле было надта цяжка ісьці.

„Яна 'шчэ ўтоміцца. Трэба спачатку памаленьку ехаць“, падумаў Андрэй і вылез з саней, трымаючы лейцы ў руках. Сьнегу накідала вышэй кален, а скора Андрэй так уваліўся, што прышлося вылазіць з дапамогаю рук, выпусьціўшы лейцы. Андрэй хутка змарыўся і мусіў быў сесьці зноў у сані. Цяпер, калі было сьветла і ня надта круціла, дарогі лёгка было прытрымлівацца, хоць прыблізна. Шмат надзеі пакладаў Андрэй на тое, што вярстоў праз пяць павінна была пры дарозе стаяць вярба, праз вярсту другая, яшчэ праз вярсту—трэцяя. Гэтымі вехамі Андрэй думаў кіравацца і па іх правяраць правільнасьць дарогі. Праз дзьве вярсты ад трэцяй вярбы раней рос вялізны дуб, але аднойчы ў яго ўдарыла маланка і ён згарэў. Застаўся толькі абгарэлы, чорны корч з пустою сярэдзінаю, і ён таксама павінен быў паказаць дарогу.

Андрэй уставаў з саней, ішоў, зморваўся, зноў садзіўся і ехаў, а потым, трохі адпачыўшы, зноў уставаў. Ня гледзячы на тое, што дома ён сілаю выпіў цэлую конаўку вады, яму вельмі хацелася піць. Нават у роце перасохла.

Праз некаторы час Андрэй праехаў першую, а потым другую вярбу. „Ну, ужо й палова дарогі!“ падумаў ён.

Андрэй і кабыла ўжо добра змарыліся, і Андрэй уздыхнуў з аблягчэньнем, калі мінаваў чорны корч. Яшчэ некаторы час, падганяемыя ветрам і смагаю, ішлі яны, і ўрэшце ўбачылі мястэчка. Хутка яны былі там. Андрэй прывязаў кабылу да плоту каля памяшканьня пошты, даў ёй сена, а сам пайшоў на пошту. Стрэлкі гадзіньніка паказвалі адну гадзіну дню.

II.

Пакуль Андрэй напаіў кабылу, трохі перакусіў хлеба ды выпіў вады, пакуль былі прыгатаваны ды зьвязаны ў пачак са штэмпелем лісты і газэты, прайшла цэлая гадзіна. Служачыя пошты ня мала зьдзівіліся, калі ўбачылі Андрэя. Той растлумачыў ім, што яго брат захварэў і ня можа прыехаць і што ён замяніў брата.

Урэшце пачка лістоў і газэт, невялікая—фунтаў пяць—была паложана ў сані і прыкрыта сенам. Андрэй сабраў недаедзенае кабылаю сена і, паклаўшы яго таксама ў сані, выехаў з мястэчка. Апынуўшыся ў полі, Андрэй заўважыў, што завіруха ўзмацнілася. Цяпер вецер дзьмуў якраз насустрэчу, сьнег зноў паваліў з хмар, масы яго імчаліся па шырокім полі і засыпалі Андрэю твар. Завіруха быццам хацела прымусіць яго павярнуць назад з яе прастору. Сьнег бяспрыпынна ліпнуў да яго твару і сьляпіў яму вочы. Сьнег раставаў, і ад гэтага твар яго пачаў мерзнуць. Андрэй хацеў, пакуль можна, ехаць па пракладзенаму сьледу, але той быў увесь замецены, і ён загубіў яго, на‘т не праехаўшы некалькі сажняў па полі. Андрэй ледзьве йшоў, гразнучы ў сьнезе і хаваючы твар ад прыліпаючага сьнегу на каўнер кажуха. Час-ад-часу ён прыпыняўся і абарачваўся сьпіною да злоснага ветру, саграваючы твар. Кабыле таксама было цяжка: яна правальвалася ў сьнег, вецер з усіх бакоў аблепліваў яе сьнегам. Посьцілка, якою была накрыта кабыла, саслужыла добрую службу: мокры сьнег не пападаў на сьпіну жывёліны і не раставаў на ёй. Затое сьпераду шмат сьнегу прыляпілася да кабылы і зрабіла яе шыю і грудзі зусім белымі.

Андрэй рукавіцаю зьбіваў з кабылы сьнег і гэткім-жа чынам абіваў свой кажух.

Некалькі разоў садзіўся Андрэй на сані і трохі адпачываў ад хадзьбы, а потым зноў уставаў ды йшоў. Ён увесь час пільна ўглядаўся ў сьветлую імглу мяцеліцы, каб ведаць, ці ня зьбіўся ён з дарогі, бо йшоў па роўнай сьнежнай паверхні і можна было кіравацца толькі прыблізным напрамкам шляху. Раптам Андрэй убачыў уперадзе нешта чорнае. Калі ён падышоў бліжэй, то чорнае аказалася карчом апаленага маланкаю дуба. Гэта падбадзёрыла Андрэя і разагнала ў душа сумненьні. Да гэтай пары ён ішоў па вернаму напрамку.

Андрэй пайшоў далей насупроць ветру і завірухі, супроць мокрага сьнегу. Ён ішоў ужо такі час, што па яго разрахунку пара было сустрэць трэцюю вярбу. А між тым, колькі ні ўглядаўся Андрэй навокал, нічога ня было відаць, а ён ехаў усё далей і далей.

Усюды кружыліся ў полі сьнежныя хвалі, якія хутка зьмяняліся адна другой,—ткалася нейкая сьветлая, непразрыстая, рухавая тканіна, якая закрывала небасхіл і зьлівала ў адно цэлае белую зямлю, сьнежную імглу і шэрае неба. Стала зьмяркацца, і сьнегавая тканіна завірухі зрабілася больш шэрай і пачала цямнець. Вецер з тэй-жа злосьцю і сілай імчаўся на полі, сьвістаў ля вушэй Андрэя і сыпаў у яго новыя масы сьнегу. Андрэй углядаўся ў бела-шэры віхар, і ня мог убачыць нічога, што-б магло паказаць дарогу. Здавалася, што вербы праваліліся скрозь зямлю і іх нідзе не знайсьці. Андрэй ледзьве выцягваў ногі з сьнегу і ўсё йшоў наперад за змораной кабылай. Сьнег налазіў у яго боты, раставаў там, ён адчуваў, як вадзяныя халодныя каплі бегалі па нагах. Штаны ад кален былі мокрымі ад сьнегу і зрабіліся нейкімі цяжкімі.

Гушчэла сьнегавая імгла і напоўніла адчаем сэрца Андрэя. Раптам яму здалося, што ён узяў няправільны напрамак, улева. Андрэй падыйшоў і ўзяў кабылу за вобруць. Тая, змучаная і мокрая, думаючы, што ўжо можна спыніцца—стала. Цяжкае яе



*Цяпер Андрэю часта прыходзілася дапамагаць кабыле выцягваць з сьнегу сані.*

дыханьне абдавала Андрэя клубкамі белае пары. Пара падымалася ад усяго яе цела. Андрэй панукаў на кабылу, але тая стаяла на месцы. Андрэй раззлаваўся: „но-о-о“!.. закрычаў ён са сьлязьмі ў голасе, адчуваючы, што нешта сьціснула яму горла, ён ударыў кабылу ў бок з усяе сілы, і, схапіўшыся за вобруць, пацягнуў за яе. Яму ўдалося гэтак павярнуць кабылу, і ён пагнаў яе далей. Цяпер у сані ня можна было сесьці, бо кабыле было-б цяжка і яна зусім-бы стала. Прыходзілася йсьці па глыбокім сьнезе. Цьма ўсё гушчэла і абхінала з ўсіх бакоў Андрэя. Наліпшы сьпераду на кажух сьнег зьмярзаўся і ўтвараў ледзяную кару. Вецер дзьмуў і праз шчыліны кажуха даходзіў да спацеўшага і распаранага цела. Андрэю надта хацелася піць, і ён лавіў губамі сьнег, што ляцеў яму ў рот. Нават, узяўшы рукамі цэлую жменю сьнегу, сасаў яго. Але сьнег не зьмяншаў яго смагі. Андрэй усё йшоў. У цемры кружыліся і імчаліся на крыльлях ветру сьняжынкі, скакала і сердавала завіруха...

Кабыла некалькі разоў станавілася і не хацела йсьці; яна ўжо ня слухала нуканьняў і прыходзілася гнаць яе ўдарамі лейцаў. Андрэй павярнуў галаву налева: яму здалося, што там нешта чарнее, у мазгох стукнула думка, што гэта, мабыць, ствол вярбы пры дарозе. Надзея зноў абудзілася ў яго душы, ён завярнуў кабылу ў бок. Прайшла хвіліна, дзьве, кабыла ледзь пракладала сабе дарогу і нічога ня было відаць. Андрэй спыніў кабылу і сам пайшоў наперад разьведаць, але нічога не знайшоў. Андрэй стрымліваў сябе, каб не заплакаць. Калі ён падыйшоў да саней, яго ахапіла нейкая слабасьць, яму захацелася сесьці на сані, сесьці і нічога не рабіць — заплюшчыць вочы і сядзець так, бяз ніякага руху. Хай сьвішча над галавою вецер, хай сыплецца на яе сьнег.

Андрэй чуў ад дарослых, што сесьці і заснуць у полі ў час завірухі—усё роўна, што аддаць сябе сьмерці. Чалавек і не пачуе, як занясе яго сьнегам і як ён, заснуўшы, астыне, замерзьне і зробіцца абледзянелым трупам. Андрэй зрабіў над сабою страшную патугу, каб ня сесьці на сані і не заснуць. Ён ізноў павярнуў кабылу направа і пайшоў з боку, ледзь выцягваючы азяблыя ногі з сьнегу. Раптам сані аб нешта грукнулі і застанавіліся. Андрэй, добра прыгледзеўшыся і абмацаўшы яго, пазнаў ствол першай вярбы, якая была танчэйшая за другія дзьве. Блытаўшыся па полі, Андрэй мінаваў другія вербы і цяпер вельмі ўзрадаваўся, што знайшоў першую. Да вёскі засталося пяць вёрст.

Андрэй пастараўся найбольш правільна адзначыць патрэбны напрамак, каб ехаць да вёскі і аслабшымі рукамі пацягнуў лейцы. Кабыла не паслухала і стаяла на месцы. Андрэй ударыў яе лейцамі. У цемры было чутно, як яна дыхала, як пасьля ўдару паспрабавала крануцца з месца, але не магла. Андрэю стала шкада яе, і ён вобмацкам знайшоў морду кабылы і пагладзіў яе. Потым ён стаў памагаць кабыле зрушыць сані з месца. Спачатку гэта не ўдавалася, бо кабыла і ён дзейнічалі ня разам, а паасобку, але праз некалькі хвілін сані паехалі далей. Цяпер Андрэю часта прыходзілася дапамагаць кабыле выцягваць з сьнегу сані, калі яны вельмі загрузалі. Андрэй ішоў, ішоў, здавалася, цэлую вечнасьць. Кабыла ўсё часьцей і часьцей спынялася і часьцей трэба было ёй памагаць.

Астатнія сілы пакідалі Андрэя. Некалькі разоў выцягваючы ногі з сьнегу, ён ня мог устояць і садзіўся на гурбу. Здавалася, моцны парыў ветру паваліць яго, і ён больш ня ўстане. Кабыла зноў стала. На гэты раз не дапамаглі і су-

месныя патугі жывёлы і гаспадара: сані ня зрушыліся з месца. Дый што было-б, калі-б і зрушыліся? Ці ня ўсё роўна сьмерць у полі пад падаючым бязупынна сьнегам? Можна было-б вярнуцца да вярбы і зноў паспрабаваць знайсьці дарогу. Але дзе шукаць тую вярбу, калі вецер гатоў зваліць з ног, сьнег сьлепіць вочы, а чорная ноч усё хавае пад сваёй цёмнай коўдраю.

Андрэй зусім аслаб і ціха апусьціўся на сані. Але раптам ён настаражыўся: яму здалося, што сярод сьвісту ветру і гулу завірухі чутно браханьне сабакі. Ён прыслухаўся. Але, гэта брэша сабака! Вецер даносіў абрыўкі далёкіх гукаў. Сумненьня быць не магло. Толькі сабака можа так брахаць, а сабака знаходзіцца ў вёсцы. Трэба хутчэй ісьці на гэты брэх, і там будзе спасеньне. У Андрэя абудзілася вялікае жаданьне жыцьця, у момант захапіла ўсе яго думкі. „Жыць! Жыць!“ даносілася з глыбіні яго сэрца. „Жыць! Жыць!“—стукала кроў у скіўцах. Здавалася, што вецер прыносіў гэтыя адрыўчатыя гукі—брэх сабакі, і яны складаліся з гэтага чароўнага слова:—„Жыць! Жыць!“

Мабыць, кабыла таксама пачула гэтыя прыемныя гукі, яна сабрала астатнія сілы і з дапамогаю Андрэя рушылася ўперад.

Андрэй хацеў піць. Ён змарыўся, змучыўся, яго ногі зьмерзьлі і дрыжэлі ад слабасьці. Яго пранізваў халодны вецер, сьняжынкі раставалі ў яго на твары. Ён нічога не адчуваў, а ў вушох толькі раздаваліся словы:—„Жыць! Жыць!“

Сярод імглы мільгануў вагеньчык, за ім другі. „Гэта вёска!“ падумаў Андрэй. Вагеньчыкі мігалі і вабілі яго. Галасьней раздаецца брэх сабакі.

Праз чвэрць гадзіны ўехалі ў вёску. Яшчэ праз хвіліну Андрэй адчыніў дзьверы хаты і ўпаў у абнімкі маці...

На двары сьвістаў вецер, сьнег сыпаўся з неба, сьнег падымаўся з зямлі, у полі скакала і выла шалёная завіруха.




У час культпаходу шмат якія атрады добра разгарнулі і праводзяць кампанію па змаганьню з п‘янствам сваіх бацькоў. З гэтай мэтай ужываюцца розныя сродкі — дэманстрацыі супроць алкаголю, вывешваньне плякатаў адпаведнага зьместу на прадпрыемствах і г. д.

На фотографіі—супроцьалкагольная дэманстрацыя аднаго з Менскіх атрадаў у дзень выдачы пэнсіі бацькам-рабочым.




Казка *З. Астапенкі*. (*Працяг*). Малюнкі *Ізмайлава*.

**Ліст.**

— „Браты! Мы з вамі,
Але мы цяпер паўстаць ня маем
сілы...
Стаіць за намі жандар, як зьвер,
І грозіць зброяй і магілай.
Але мы хутка, як адзін,
Паўстанем! Сіла наша!
Прывет братэрскі ...
Ўсім! усім!..
**Працоўныя Мурашу"**.

VIII.

Ля хвояў праца пачалася.
Пясок сюды нясуць, кідаюць...
Расьце сьцяна... Трэ' моцна класьці!
Равамі сьцены абкружаюць.
Другі атрад цягае ежу
(Прымусяць многа пасядзець мо'?),
Будуюць моцна, як належыць,
Пакоі раненым і дзецям.
Мурашак тысячы шныраюць...
Кладуць—ды ў лес бягуць ізноў.
Куды ні глянь—рабоў бяз краю.
Работа ўсіх зьліла ў адно.
І ўстала крэпасьць тут сьцяною.
Равы—пакоцішся й—няма!..
— Няхай ідуць сабе вайною!
— Паўстаўшыя!
У крэпасьць Волі—
— Ма-а-арш!..

IX.

Што за скогат?
Што за грохат?
Што за рух паміж травы?..
Зачарнелі на дарогах
Войска царскага страі...
Што ні час—дык бліжай, бліжай...
Што ні час—
ідуць, ідуць...
Для крывавага разбою
Генэралы іх вядуць.
Іх сьцягі шумяць, як лісьце.
Трубы ў тахт грымяць трывожна.
Праразаюць рэхам высі
Крыкі песьні пераможнай.
На вяршыне стромкай вежы
Кучка зьбілася рабоў...
— Забяруць—усіх парэжуць!..
— Не! няхай ударыць бой!..

X.

Нібы хмары,
Праз абшары
Пакаціліся рады.
Бліжай... Бліжай...
Хвалі ліжуць
Сьцен узьведзеных сьляды.
— Гэй! здавайцеся, хто ў сьценах,
Хто шкадуе галавы!..
Падыйшлі, але прад імі—
Цёмнай пасткаю равы...
Ні прайсьці, ні пераскочыць



І мастоў не перакласьці!..
— Бач! пасьпелі ужо чэрці!
Пасьпяшылі... ваша шчасьце...
Разышліся цёмнай зданьню
Вакол крэпасьці страі...
Йдуць жандары, а за імі
Ня відаць зямлі-травы...
Парасчысьцілі былінкі,
Навакола стала гладка.
Ля кустоў для генэралаў
Узьнялася ўраз палатка.
А ў палатцы йдзе нарада.
Афіцэры й генэралы
Слушна радзяцца:
— Праз тыдзень
Усіх пабіць іх, і то мала!

XI.

На плошчы крэпасьці ізноў
Сышоўся дружны той натоўп.
— Браты, вакол нас, дзе ні глянь,
Разьлёгся ворагавы стан.
Яшчэ тры дні, і наша раць
Праз голад стане паміраць!—
Такія словы мураўёў
Плывуць у гуле галасоў.
— Але ў гэты горкі дзень
Ня трацьма мы сваіх надзей.
Хачу вам нештачка сказаць,
Каб нам жаўнераў разагнаць...
Нам трэ'...
Але пры гэтым слове
Паднялі ўсе ўгару галовы...
Глядзяць, а там, праз сінь-прасьцяг,
Нязнаных тры гасьці ляцяць...

XII.

— ж-ж-ж-ж-ж-ж-ж-ж-ж-ж-ж-ж-ж!!!
— з-з-з-з-з-з-з-з-з-з-з-з-з!!!
— з-з-з-з-з-з-з-з-з-з-з-з-з-з-з-з-з-з-з-з!!!
— ж-ж-ж-ж-ж-ж-ж-ж-ж!!!

На плошчы разам селі...
Дазвольце вам прадставіцца:
— Пчала.
— Аса.
— А я завуся—Чмелем.
Ляцелі, аглядаючы сусьвет,
І ўраз пачулі грукат-звон вайсковы...
Жаўнераў шмат...
і паміж іх будовы...
Дазвольце-ж нам на мітынгу
Да вольных мураўёў
Сказаць па пары
Вельмі, вельмі важных слоў!..



— Ад вольнай Камуны Чмялёў
Ад Пчолак руплівых ды Вос
Я да вас, мураўёў,
Прывітаньне прывёз!
Дазвольце, браты!
Мы зможам усё...
Мы бачым, што ворагаў надта
Многа...
Таму ад вольных лясоў
Прапануем вам дапамогу:
Ад Чмялёў—
Атрад лятуноў,
Ад пчол—
Уся вайсковая сіла,
Ды ад палёў—
Ударны батальён
Камуны асінай".
Над прасьцягам галоў
Узьвіліся радасьці крыкі:—
Ура! Ура!—Качаць пасланцоў!
Грайце, музыкі!..

XIII.

А заўтра рана
Пад сьценамі рабоў
Ударыў першы і апошні бой.
З пад туманоў густых завесы
Атрады кінуліся з лесу—
Нясуць бярвеньне, палкі, лісьце
І лезуць сотнямі на высі...
— Ура!
— У-р-р-р-а-а-а-а-а!!!
Бясконца б'юць...
А войскі йдуць, ідуць...
Са стромкіх сьценаў, на жаўнераў
Ляціць гара каменьняў шэрых.
Яшчэ напор...
Удар вялікі...
Усё зьлілося ў шуме, крыку...

XIV.

— Трывога! Трывога!..
— Зьнімайце аблогу!..
— Ратуйце, хто можа, жыцьцё!..
Ляціць на нас войска—
Ня зьлічыш і вокам!..
З нябёсаў ляціць страхацьцё!
У войску жаўнераў
Трывога бяз меры.
І раптам, праз хвілю,
На гора жаўнерскіх галоў
У лёце разгонным
Віхром закружылі
Мільёны—
І Пчолаў,
І Вос,
І Чмялёў...

. . . . . . . . . . .

XV.

Што за песьні!
Што за грохат!
Радасьць зьдзейсьненых падзей...
Па лясных шнурох-дарогах
Строй за строем ўдаль ідзе.

— Слава Пчолам!
Слава Восам!
Хай жыве працоўных рацы!
Мы цяпера сваім лёсам
Будзем самі кіраваць!

Грамадой густой, вясёлай
Мкнецца шэраг мураўёў,
А між імі—Восы, Пчолы
Ў яркай квецені радоў...

Вось і сьцены ўжо Мурашу...
Гулка йдзе за строем строй.
Сустракаць выходзяць з маршам
Іх працоўных цэлы рой.

У горадзе Мурашы,
Людным ды вялікім,
Зноў снуе мурашак
Вір-натоўп вялікі.

— Праца, разам з воляй—
Дык і жыць ня цяжка!..
Кажуць ды сьмяюцца
Вольныя мурашкі.

(*Канец*).



# НАША ГАЗЭТА

№ 3 Насьценная газэта чытачоў „Бел. Піонэра“ № 3

## ШКОДНАЯ ЎВАГА.



Кажуць, мы абкружаны ўвагай дарослых. Пакуль што мы абкружаны толькі папяросным дымам.

## Вечар сьветавой газэты ў нашым атрадзе.

Да Кастрычнікавага сьвята мы наладзілі вечар сьветавой газэты. Для падрыхтоўкі газэты мы вылучылі 3-х піонэраў. Дасталі чароўны ліхтар і дыапозытывы (шкляныя пласьцінкі), потым пачалі рысаваць сьмешныя малюнкі (карыкатуры) для кожнага піонэра. Калі на палатне зьяўлялася карыкатура якога-небудзь піонэра, то выбраныя раней тры таварышы задавалі, напр., такія пытаньні: „Чым корміцца, у чым мае патрэбу і што яму раіцца. На гэтыя пытаньні другія піонэры адказвалі падрыхтованымі раней адказамі. Запытаньні і адказы мы бралі сьмешныя, і адказы стараліся даваць як мага карацейшымі.

Але затое малюнкаў зрабілі шмат і як мага больш сьмешнымі.

Вось як мы загатаўлялі малюнкі: бралі шкляныя пласьцінкі; каб туш на іх не распаўзалася, мы змазвалі іх з аднаго боку жэлацінам, разбаўленым у вадзе. Калі пласьцінкі высыхалі, мы бралі намалёваны раней на паперы малюнак, накладвалі на яго пласьцінку тым бокам уверх, які быў пакрыты жэлацінам. Потым рысавальным пяром абводзілі малюнак тушшу. Некаторыя малюнкі мы яшчэ пакрылі рознакаляроваю, рэдка разьведзенаю фарбаю, каб праменьні ліхтара маглі праходзіць праз пласт фарбы.

Калі туш высахне—пласьцінка гатова.

Шмат хто думае, што подпісы на пласьцінках трэба пісаць задам напярод, але гэта няпраўда, проста напісанае на пласьцінцы разам з ёю трэба засоўваць у ліхтар дагары нагамі.

Наступіў час нашага вечару. Зрабілі з прасьціradла экран. Калі ўсе сабраліся, мы патушылі сьвет і сталі дэманстраваць прыгатаваныя намі дыапазытывы. Вылучаныя піонэры чыталі прыгатаваныя раней запытаньні і адказы. Дружным рогатам піонэры сустракалі кожны новы дыапазытыў. Пасьля сьветавой газэты правялі самадзейную частку вечару. На гэтым наш вечар скончыўся.

Я. Танэнбаум.

(Атрад пры Дзяржаўным Выдавецтве Беларусі).

## Дзе дзеўся атрад?

Месяц таму назад яч. КП(б)Б зацьвярджала новы плян працы. У сваім справаздачным дакладзе на ячэйцы КП(б)Б сакратар яч. КСМ адносна піонэрскай працы паведаміў, што ўжо прайшло тры месяцы, як атраду ў нас няма.

— Ах!—усхапіўся сакратар яч. КП(б)Б, дзе-ж ён дзеўся? Чаму-ж сакратар яч. КСМ не паведаміў нас аб гэтым?

І на гэтым справа аб піонэрскім атрадзе скончылася.

Быўшыя Піонэры.

(м. Пясочна, Вузьдзенскі раён, Менскай акр.).

## Майстры з нашай школы.

*У нашай Любаніцкай школе ёсьць усялякія майстры. Адзін майстар па насох. Гэты майстар сочыць за сваёй работай—насы разьбівае.*

*А як прыдзе на вучком, дык зробіцца такім ціхім хлопчыкам, як быццам-бы нічога не рабіў. Гэты вучань завецца* **Апанас Клімовіч**. *Вучыцца ён у шостай клясе.*

*Ёсьць яшчэ ў нас шайка хлопцаў, якія б'юць на вёсцы сабак і выбіваюць дзеўкам зубы. Гэта шайка складаецца з* **Дразда Макара, Бацюня Паўла** *і інш. Яны з чацьвертай клясы.*

*У трэцяй клясе некаторыя вучні пазаводзілі сабе „чубы“. Настаўніца просіць іх, каб падстрыгліся, а яны ня слухаюць.*

*Адным словам, шмат якія вучні нашай Любаніцкай сямігодкі любяць біцца і хуліганіць. Старшыня кляскому такі самы, як і вучні, а можа і яшчэ горшы.*

*Кожны раз ён зрывае апошнія лекцыі і бягом бяжыць дахаты.*

Зяма Матусаў.

## Краязнаўчы гурток.

*Пры 1-ай Клімавіцкай 7-годцы быў арганізаваны краязнаўчы гурток. Працаваў ён пад кіраўніцтвам настаўніка. Праца вялася выключна практычная. На занятках гуртка, якія адбываліся кожны тыдзень, вучні самі праводзілі гутаркі аб наглядданьнях за расьлінамі. Усе гэтыя наглядданьні запісваліся ў асобны сшытак (дзеньнік гуртка).*

*Апроч гэтага, былі даклады аб эканамічным, гістарычным жыцьці нашага раёну і, у прыватнасьці, гораду Клімавічы. Асабліва добра выявілася практычная праца гуртка па зьбіраньню вуснай творчасьці насельніцтва нашага раёну. На гэту тэму быў зроблен даклад і пасьля яго кожнаму сябру гуртка даручана было сабраць некалькі песень ці загадак. Намі было сабрана 15 песень, 13 загадак, 5 загавораў і 3 казкі.*

Летнякоў Базыль.

## ЯГО ВЫ ВЕДАЕЦЕ?

Піонэра Міхася Віннага, з піонэратраду пры Цэнтральнай Дасьледчай Школе, ведаеце?

Гэта той, што летась сабе радыё-прыёмнік збудаваў і радыё-антэну вышнёй у 40 мэт. паставіў на сваім двары. Вось, вось той самы Вінны, прозьвішча якога вельмі часта ўспамінае Менская радыё-станцыя імя Саўнаркому БССР, у сваіх шматлікіх кансультацыях для радыё-слухачоў.

Міхась, трэба сказаць, наогул на такія штукі хлопец здатны. Мінулай зімой шахматамі захапляўся (і цяпер іх не забывае), зрабіў сабе пін-понг (настольны тэнніс), захапіўшы ўсю сям'ю гэтай цікавай гульнёй...

Вясною з Масквы ліст ад дзеда атрымаў Міхась. А ў лісьце:

— „Гэтымі днямі прыяжджаю да вас у госьці... якіх табе, Міхась, маскоўскіх навінак прывезьці?“

У адказ паляцела на паштовай картцы:

— „Радыё-прыёмнік“...

Дзед разважаў больш стала і разумна. Ён у Менск прывёз радыё-навушнікі і кніжку „Як самому зрабіць радыё-прыёмнік“. І толькі.

Праз некалькі дзён, сабраўшы „сяброўскія ўзносы“ з членаў сям'і на прыёмнік, накупіў Міхась адпаведных матар'ялаў ды да „капітальнага будаўніцтва“ радыё-прыёмніку прыступіў...

Цэлы тыдзень майстравалі дзед і ўнук, а прыёмнік добры зрабілі... Калі антэну нацягнулі, дык з першага-ж вечару выразна загучэла ў навушніках:

— Алло! Алло! Гаворыць Менск...

Ці спыніўся-ж Міхась на гэтых дасягненьнях? Куды там!—яму канцэрту ды радыё-газэты мала; ён сталую сувязь з станцыяй Менскай завязаў... Піша аб якасьці перадач, пытаецца, як наладзіць найвялікшую чуткасьць перадачы... Рэгулярна адказвае радыё-станцыя Міхасю. І чутнасьць у яго прыёмніку, дзякуючы гэтай сувязі, самая найлепшая.

Вечарам падыдзе зморaная матка да прыёмніку, паслухае апошнія навіны ў радыё-газэце, часам і канцэрт паслухае... Пагладзіць па галоўцы Міхася і скажа:

— Вось які ён у мяне... Малайцом! А ня матка, дык сёстры, бабка за навушнікамі,—Міхасёў прыёмнік бяз працы ніколі не стаіць.

Узяўся Міхась за вывучэньне мовы эспэранто. Па радыё поўны курс перадаюць... Купіў кніжачку мовы эспэранто. Праўда, не асабліва шанцуе.

— Ой, і чысьцілі-ж мяне сёньня за дасланую работу... — Усё разьнесьлі спачатку да канца,—кажа мне Міхась. І дадае:

— Але я нічога. Ня трачу веры. Сёньня што паслаў, здаецца, лепей зроблена...

Менскія мясцовыя абшары ўжо не задавальняюць Міхася. І ён мазгуе аб тым, каб вылезьці ў „міжнародную“ радыё-перадачу. Вось ужо месяц, як пакрысе, асьцярожна і цярпліва будуецца лямпавы прыёмнік...

— Пачуем Маскву, Ленінград, Бэрлін, Рыгу, Варшаву...—радуецца сям'я.

Пабудову прыёмніка значна затрымлівае недахват грошай. Пакрысе, аднак, сям'я зьбірае грошы на будову лямпавага прыёмніку.

Мы ўпэўнены: гэты прыёмнік Міхась пабудуе, бо радыё яго вельмі зацікавіла.

Піонэры і вучні, бярэце прыклад з Міхася—пашырайце радыё.

Нінель Акцябрскі.




*(Працяг).*

**На гаспадарчы фронт.**

Барацьба на ваенных франтох хутка спыняецца. Разьбіты Юдзеніч, Дзянікін, Урангель, але перад комсамолам паўстае новая задача ня менш важная і сур'ёзная. Разбурана ўся гаспадарка краіны, палі не засеяны, фабрыкі і заводы стаяць—няма апалу для іх; а чыгуначны транспарт—разбураны. Голад, холад, розныя хваробы, ня менш за белагвардзейцаў, пагражаюць зьнішчыць заваёвы рэволюцыі.

І вось армія, якая здолела перамагчы на франтох, рэорганізуецца ў працоўную армію. У 1919 годзе была абвешчана мобілізацыя ўсіх комсамольцаў (Урал), якія былі пасланы на работу па аднаўленьню транспарту і г. д. Комсамол і тут прыняў актыўнейшы ўдзел у організацыі працоўных армій.

Надзвычайна добра працавала моладзь на заводах і капальнях. Фактычна 4 і 6-гадзінны рабочы дзень для моладзі быў адменен, моладзь працавала як і дарослыя.

Але і пасьля работы накіроўваліся ў дзятдом, школу, больніцу, абшывалі, мылі, чысьцілі і папраўлялі, надаючы ахвоты і бадзёрасьці сваёй энэргіяй і акружаючым.

Асабліва важная была работа ў вёсцы. Нястача насеньня, рабочых рук, контррэволюцыйны лёзунг кулацтва „засявай толькі для сваіх патрэб",—усё гэта магло ўтварыць пагрозу зьмяншэньня і без таго невялікай пасяўной плошчы.

Былі накіраваны атрады комсамольскай прац. арміі ў вёску для дапамогі сем'ям чырвонаармейцаў, на суботнікі, на пабудову мастоў і дарог.

Вось урывак з адозвы ЦК КСМ:

„Зараз пачнуць зьбіраць ураджай. Калі недахват у рабочых руках ня будзе папоўнены, ня будзе каму зьбіраць ураджаю,—ён згніе на корані. Голад можа павялічыцца. Хлеб павінен быць сабраны ўвесь. Трэба тэрмінова накіраваць сельска-гаспадарчыя дружыны ў вёску. Найбольшай дапамогі мы чакаем ад моладзі".

І сапраўды, комсамол горача адгукнуўся на заклік. Быў організаваны „Тыдзень селяніна", які палажыў пачатак плянавае работы комсамолу ў вёсцы. Была наладжана сувязь з комсамольскімі ячэйкамі ў вёсцы. У многіх вёсках пасьля растлумачальнай кампаніі організаваліся новыя ячэйкі.

Самай цяжкай і адказнай была работа комсамольцаў. Многа комсамольцаў загінула ад рукі кулакоў, якія не хацелі аддаваць свае лішкі галадаючым рабочым. Часта кулакі, абкружыўшы такі атрад, забівалі ўсіх яго сяброў да сьмерці. Іх закопвалі ў зямлю жывымі. На ілбе вырэзвалі чырвонаармейскую зорку. У адным з паветаў комсамольцу разрэзалі жывот і грудзі і насыпалі ў сярэдзіну збожжа; усё гэта рабілася дзеля таго, каб напужаць продатрадцаў і ня даць галодным хлеба.

**У абарону інтарэсаў рабочай моладзі.**

Ня гледзячы на тое, што галоўныя сілы былі кінуты на абарону і будаўніцтва краіны, комсамол усё-ж разгарнуў вялі-

кую ўнутрысаюзную работу. Організаваны школы і клюбы для падлеткаў, з якіх пасьля вырасла сетка фабзавучаў. У цяжкіх умовах, бяз сродкаў і культурных сіл, комсамол організоўваў клюбы, якія зьяўляліся асяродкам культурна-політычнага выхаваньня мас.

Вось урывак з успамінаў ленінградзкага комсамольца.

„Комсамольцы з другога канца раёну насілі самі з дому дровы для клюбу. Дзяўчаты дармова кожны тыдзень мылі ўсе памяшканьні клюбу. Моладзь сама прыбірала і вымятала, не ленавалася выконваць самую цяжкую работу. Затое, як ганарыліся яны сваёю калыскаю асьветы, з якою ахвотаю, з якою радасьцю яны адпачывалі і праводзілі час на агітках і пастаноўках, якія самі-ж і складалі.

### Комсамол у барацьбе за моладзь.

Пасьля 1920 г. пачынаюцца годы мірнага будаўніцтва. КСМ накіроўвае ўсю сваю энэргію на будаўніцтва краіны, на выхаваньне кадраў і ўцягненьне рабоча-сялянскай моладзі ў шэрагі саюзу.

Яшчэ на 1-м і 2-м зьездах ставіліся пытаньні організацыі працы моладзі. К 3-му зьезду комсамол дабіваецца ўжо шэрагу пастаноў, якія рэгулююць працу падлетка і ахоўваюць яго здароўе. Экономічная работа вядзецца комсамолам так, каб, абараняючы і ахоўваючы правы моладзі, зьвязваць іх работу з навучаньнем, каб у працэсе вытворчасьці вырастаў ня толькі высокакваліфікаваны рабочы, але і сьвядомы пролетары—будаўнік савецкай дзяржавы.

У чым-ж выявіліся дасягненьні комсамолу ў гэтай галіне?

Калі яшчэ ў 1914 г. рабочы дзень падлетка працягваўся ад ночы і да ночы і працягваўся пры павышанай аплаце ў 30—50 к., то ўжо к 3-му зьезду комсамолу (1920 г.) мы маем наступнае:

1. Уведзены 4 і 6-гадзінны працоўны дзень для падлеткаў да 16-ці і 18-ці гадоў.

2. Не дапушчэньне на работу 14-гадовых дзяцей.

3. Месячны адпачынак для моладзі да 18-ці гадоў.

4. Для праверкі ўсіх гэтых мерапрыемстваў комсамол атрымаў права вылучаць з свайго асяродзьдзя так званых „асыстэнтаў“, ў дапамогу інструктаром працы; гэта было вельмі важна, бо гэта адразу-ж давала магчымасьць праводзіць у жыцьцё ўсе пастановы. Куды цяжэй было на прыватных прадпрыемствах, але й тут комсамол дабіўся свайго. На тых прыватных прадпрыемствах, дзе падлеткі не маглі дагаварвацца з гаспадарамі, наладжваліся забастоўкі. Падкіраўніцтвам комсамолу гэтыя забастоўкі заўсёды былі добра організаванымі і заканчваліся перамогай моладзі. Але яшчэ шмат цяжкасьцяй стаяла перад комсамолам. Праца моладзі была менш вытворчай, чым праца дарослых. Беспрацоўе сярод моладзі было вялікае. Падлеткі ў большасьці былі малакваліфікаванымі. Пачалося масавае скарачэньне на фабрыках і заводах моладзі. Але саюзу ўдалося дабіцца ўстанаўленьня броні, г. зн. прымацаваньня пэўнай колькасьці падлеткаў да кожнай вытворчасьці, у залежнасьці ад яе велічыні. 2-га мая 1922 г. ЦВК быў абвешчаны дэкрэт аб броні.

### Выхаваўчая работа саюзу.

Пасьля вучобы і работы моладзь павінна знайсьці сродкі для разумнай організацыі свайго адпачынку. Організуюцца спэцыяльныя клюбы альбо сэкцыі моладзі пры клюбах дарослых. Самі комсамольцы працуюць над організацыяй свайго тэатру комсамольскіх фільмаў. Як на баявых франтох, так і на культурным фронце выхаваньня моладзі комсамол наперадзе на ўсіх вучастках. Але самае сур'ёзнае дасягненьне саюзу—гэта яго барацьба за школу. Комсамол утварае школу фабрычна-заводзкага вучнёўства, якая дае ня толькі высокакваліфікаванага рабочага, але і стойкага





сьвядомага барацьбіта. І не на словах, а на справе зьвязваецца тут праца з навучаньнем.

Комсамолам таксама організаваны школы сялянскай моладзі, якія рыхтуюць культурных і рэвалюцыйных працаўнікоў вёскі.

Комсамол не забываецца і пра другую важную работу—падрыхтоўку моладзі да абароны рэспублікі. Мы добра ведаем, што блізка навальніца, што наперадзе яшчэ галоўныя бойкі. Будуюцца бронецягнікі, падводныя лодкі, самалёты, і капіталістыя розных краін аб'ядноюцца ў саюзы для сумеснага нападу на нас.

### На дапамогу Чырвонай арміі.

Але і СССР рыхтуецца да бойкі. Праўда, у нас ня так шмат аэроплянаў і танкаў, але затое ёсьць лепшая ў сьвеце, сьвядомая і дысцыплінаваная рабоча-сялянская Чырвоная армія. Ня гэтак лёгка было яе організаваць. Вырасла яна з невялікіх чырвонагвардзейскіх і партызанскіх атрадаў, узьнікшых у дні Кастрычніка. Разьдзетая, босая і галодная, Чырвоная армія паказала дзіўнае гэройства. Моцнай, аб'яднанай вышла яна з грамадзянскай вайны, але яшчэ большы і труднейшы шлях прышлося ён зрабіць для таго, каб стаць сапраўды Чырвонай арміяй—сталёвым колам, гатовым стаць на абарону Саюзу.

Яшчэ труднейшым было аднаўленьне Чырвонага флёту. Частка судоў загінула ў часе боек, частка затоплена альбо вывезена заграніцу. Матросы, быўшыя заўсёды наперадзе, часткаю загінулі ў грамадзянскай вайне ці працавалі на другіх франтох—на вытворчасьці.

І комсамол бярэцца за працу па аднаўленьню флёту з ахвотай, бадзёрасьцю і ўпэўненасьцю ў свае сілы. 16 кастрычніка 1922 г. на Ўсесаюзным зьезьдзе комсамол выносіць прапанову:

„Лічачы неабходным узяць на сябе асноўную работу ў справе аднаўленьня морскіх сіл Савецкай Расіі, V зьезд РКСМ прапануе: узяць шэфства над Чырвоным вайсковым флётам рэспублікі“.

І гэтая прапанова, як і заўсёды, не засталася толькі на паперы. Абвяшчаецца шэраг мобілізацый у флёт, і за два гады ў шэрагі яго ўліваюцца дзесяткі тысяч комсамольцаў — цяпер ужо „комсафлотцы“. Яны энэргічна бяруцца за работу па аднаўленьню флёту. Але комсамол не абыйшоўся аднэй работай у флёце. Комсамольскія ячэйкі трымаюць сувязь з комсафлётцамі, шэфствуюць над асобнымі караблямі.

### Чырвонаштандартны комсамол.

Барацьба з Дзянікіным, Калчаком і Ўрангелем, барацьба з бандытамі ўсіх колераў, работа на працоўным фронце, усесаюзныя суботнікі, ня менш жорсткія, чым на фронце, барацьба з няпісьменнасьцю, удзел у будаўніцтве, — усё гэта зноў і зноў пацьвярджае, што комсамол можа ганарыцца сваёй назваю. Ня менш ганаровым зьяўляецца ўзнагарода яго ордэнам Чырвонага сьцягу, вышэйшай баявой заслугі.

У работу па абароне краіны былі ўцягнуты дзесяткі тысяч моладзі. Масавыя вайсковыя гульні, паходы, манэўры, стралковыя і санітарныя гурткі, школы плаваньня, спартыўныя пляцоўкі,—усе гэтыя пачынаньні організуе комсамол, вядучы за сабою рабочую і сялянскую моладзь. Дзяўчаты-комсамолкі былі першымі з жанчын, хто ўзяў у рукі вінтоўку дзеля вучобы. За імі пашла ня толькі моладзь, але й дарослыя работніцы.

Вынікам энэргічнай і правільнай работы комсамолу зьяўляецца павялічэньне організацыі за лік новых яе сяброў. Зараз у сваіх шэрагах яна налічвае звыш 2 мільёнаў рабочых і сялян і не дарма зьяўляецца аднэй з асноўных армій КІМ'у.

**На социялістычнай будоўлі.**

Пасьля таго, як спынілася грамадзянская вайна, трэба было залечваць болькі на целе краіны, якія зьявіліся ў выніку войнаў—імпэрыялістычнай і грамадзянскай. Заводы і фабрыкі стаялі. Там, дзе яны працавалі, выраб быў вельмі малы: надта былі старыя машыны; падала вытворчасьць працы, бо рабочыя былі зморany, атрымлівалі вельмі мала, ім не хватала яды і г. д.

Ня лепшае было становішча і ў вёсцы. Сельская гаспадарка ў нас заўсёды была вельмі адсталаю — голад, бруд, худы конь займалі заўсёды ганаровае месца ў вёсцы. А нам трэба было ня толькі залечваць болькі, а й старацца дабіцца, каб прамысловасьць і сельская гаспадарка дайшлі да даваеннага ўзроўню, потым перашагнуць даваенную колькасьць вырабу і падвысіць якасьць. Нам патрэбны новыя фабрыкі і заводы, лепш пабудаваныя і організаваныя, чым раней, каб рабочым было лягчэй і тавараў каб было больш. Нам трэба, каб у вёсцы зямля давала больш хлеба і каб там працаваць было лягчэй.



Для гэтага трэба многае перабудаваць пановаму. Перш за ўсё, рабочы павінен ведаць, што фабрыка, дзе ён працуе,— яго фабрыка, што яму трэба падымаць сваю вытворчасьць, а значыцца, і самому клапаціцца аб тым, каб лепш організаваць работу на заводзе. Трэба, каб у вёсцы селянін зразумеў, што трэба адмовіцца ад старых дзедаўскіх способаў апрацоўкі зямлі, што трэба аб'яднацца ў колектывы, каб лепшай і больш мацнейшай была гаспадарка. Дзеля таго, каб выканаць пастаўленыя задачы, кожны рабочы і селянін павінен стаць пісьменным. Ленін сказаў на 3-м зьезьдзе комсамолу:

*„Вы ведаеце, што ў краіне няпісьменнай нельга пабудаваць комуністычную грамаду“.*

Акрамя таго, калі мы ўзяліся будаваць мірнае жыцьцё, савецкую дзяржаву,—самы апарат яго таксама працаваў вельмі дрэнна—многа там засталося царскіх чыноўнікаў; пановаму мы яшчэ ня ўсюды змаглі яго перабудаваць, і тут патрэбна была вялікая работа, трэба было тых-жа рабочых і сялян уцягнуць у работу па будаўніцтву савецкай дзяржавы. І ў гэтай вялізарнай рабоце, якая патрабуе найвялікшай напружанасьці, комсамол пад кіраўніцтвам партыі зрабіў і робіць вельмі многа. Комсамольцы вядуць барацьбу ў першых шэрагах на гэтым фронце.

Дзеля таго, каб расказаць піонэрам гэту старонку работы комсамола, зусім ня трэба шукаць матар'ялаў дзесьці далёка, каб па кніжках правесьці гутарку. Трэба толькі разам з піонэрамі ўважліва прыглядзецца ў „справы і дні“ сваёй ячэйкі, паглядзець яе ня толькі на сходзе, а і ў рабоце. Тут вы знойдзеце досыць многа цікавых матар'ялаў.

З вінтоўкаю, за варштатам, плугам—усюды ў нясупыннай барацьбе і рабоце комсамол на перадавых пазыцыях апраўдвае сваю назву *ленінскага чырвонаштандартнага.*



# ВОРАГІ

## Частка першая,

**у якой аўтар дазваляе сабе выказаць некаторыя думкі ўслух.**

Як лёгка і прыемна адчуваеш сябе, калі цябе ніхто ня кусае за скуру, ня сьсе твае крыві. Ці-ж ня праўда? Гэта ня жарт, а горкая ісьціна. Ня крыўдна нават, калі цябе ўкусіў, скажам, сабака, але калі ўкусіць цябе якая-небудзь мізэрная блыха ці сьмярдзючы клоп—гэта ўжо зусім—фэ!

Адзін грамадзянін, ня то вучоны, ня то так сабе чалавек—прыхільнік навукі, вылічыў, што калі-б даць магчымасьць клапом пладзіцца, ня зьнішчаючы іх яечак, дык за пару месяцаў адзін клоп расплодзіць 1000 штук клапоў. А цяпер мяркуйце самі: што сталася-б з вамі, калі вы ня будзеце зьнішчаць гэтых паразітаў—вам пагражае гібель і самая верная, і, бязумоўна, правільна кажа прымаўка:

**Трэба зьнішчаць ворага—клапа. З ворагамі—людзьмі, будзе лягчэй справіцца.**

Я бачу вы ня верыце. Дазвольце-ж вам давесьці гэту праўду. Пра гэта больш дакладней апавядае

## Частка другая,

**у якой цьвік ратуе ўсё становішча.**

Ня гледзячы на тое, што ў клей улілі карболаўкі, а ўсё-ж уцалела ўся сям'я! Стары клоп, клапяняты і два „бязвусых“ клапы, з яшчэ сьветла-рудымі жывоцікамі...

Цудам, сапраўдным цудам уцалелі яны пад кавалачкам клею ..

А цяпер сьмерці свае яны чакалі з хвіліны на хвіліну, з гадзіны на гадзіну.

У цемры, пад абоямі, яны ясна чулі цяжкія шагі людзей, скрып шафаў, чулі як задрыжэла сьцяна, калі да яе прыціснулі цяжкі жалезны ложак. Людзі да познай начы не пераставалі перасоўваць цяжкія рэчы па пакоі.

Уся сям'я клапоў худзела. Стары клоп моцна стагнаў.

Адчай быў найвялікшы: уся сям'я адчувала хуткае набліжэньне пагібелі. Падумаць толькі: з таго часу, калі яны ў апошні раз ссалі „чалавека ў тыфусе“, пасьля гэтага яны ніводнай крывінкі ня мелі ў роце... Але ў той самы час, калі стары клоп хацеў яшчэ раз уздыхнуць, а чацьвёра клапянятаў енчылі ў адзін тон, уся сьцяна задрыжэла... Аднекуль пасыпаўся пясок і чуваць былі глухія ўдары малатка ў цьвік...

Маладыя клапы і бязвусыя вельмі перапалохаліся, у той час, калі стары клоп перастаў войкаць, а з аблягчэньнем уздыхнуў і крыкнуў:

— Мы выратаваны!

## Частка трэцяя.

**З гарачкай 38,8, з тлумачэньнем некаторых вынікаў.**

Нярухомы, спакойны, ён ссаў. Ссаў памаленьку, паступова, разбухаючы ў памеры, і, нарэшце, ужо амаль чорны, памалу папоўз...

Стары клоп сядзеў пад вухам. „Бязвусыя“ (цяпер яны ўжо з вусамі) залезьлі пад шостую рабрыну.

Міша круціўся, стагнаў... І калі клапы добра напіліся і ледзь сьвет спаўзьлі ў шчыліны ложка, ён з адчыненым ротам і з схіленай на край ложка галавой, цяжка заснуў.

Раніцай была гарачка. Родныя непакоіліся, пасылалі за доктарам і матка горка плакала, калі тэрмомэтр паказаў 38,8°...

Доктар няўпэўнена сказаў:

— Трэба пачакаць пару дзён, пакуль невядома...

І калі „пару дзён“ мінула і гарачка не спадала і Міша прасіў у гарачцы „выкупаць яго ў халоднай вадзе“, доктар, памацаўшы пульс, задраў рубашку (а на целе былі чырвоныя плямкі), і ўжо напэўна сказаў:

— Сыпны тыфус!

## Частка чацьвертая,

### у якой абвяшчаецца жорсткая вайна.

Цяпер ужо цяжка зьлічыць усю клапіную радню, іх так многа! Яны ўжо падзяліліся на асобныя сем'і, плямені, народы... Уночы яны сустракаліся ў Мішавым ложку...

Нават удзень можна было спаткаць на абоях вандроўных клапоў і чорныя кропелькі ля „славутага“ цьвічка...

Удзень здарылася штосьці... іменна штосьці, бо цяжка сказаць ці то радасьць, ці то гора? Уласна кажучы, каму радасьць, каму гора.

### Гора клапам—радасьць людзям.

А здарылася гэтак.

Раніцай прыходзіў доктар аглядаць ужо ачуняўшага Мішу. Слухаючы і стукаючы хлопца, ён неяк выпадкова заглядзеўся на прасьцірадла, дзе былі размазаны чырвоныя кроплі... Ён прыглядзеўся яшчэ больш уважліва, надзьмуў губы і закрычаў:

— У-у-у-у! У-у-у-у!!!

— Што доктар?—падбегла матка.

— А вот што. Цяпер я разумею, чаму ваш Міша захварэў. Я, яшчэ да вашых пярэбараў у гэта памяшканьне, лячыў тут аднаго чалавека, які хварэў сыпным тыфусам. Жыў ён брудна. Клапоў тут была процьма... Напэўна, некаторыя, пасьля абклейкі, асталіся, вы іх ня зьнішчылі і таму так і здарылася...

### Клапы пераносяць заразу.

— Калі вы хочаце зьберагчы сябе і сям'ю ад заразы, зараз-жа пазьнішчайце клапоў,—заключыў доктар.

Матка чырванела.

Удзень Мішу перанесьлі на другую пасьцель. Кіпнём яны парылі матрац і вынесьлі яго на мароз. Сьцены аблілі нейкім лякарствам і адчынілі вокны.

## Частка пятая.

### Самая апошняя і самая зразумелая.

— Ня толькі клапы пераносяць заразу. Пераносяць яе і вошы і блохі, і нават людзі, але самы лепшы спосаб уберагчы сябе ад паразітаў—гэта быць чыстым, трымаць у чыстаце сваю пасьцель, адзежу, цела, памяшканьне.

Гэтыя правілы чамусьці далёка ня ўсе сабе ўцямілі і запомнілі.

— А калі вам усё яшчэ ня верыцца пра шкоднасьць для чалавека паразытаў, дык можаце папытаць у доктара, — ён напэўна ведае.

**Б. Род.**



# Дзеці вуліцы

*(З жыцьця Віцебскага разьмеркавальніка).*

Цярушыць халодны, невясновы дожджык. Жалобна пасьвістае вецер, падганяе падарожных. Ногі шчыльна прыліпаюць да гразкага тратуару. Людзі сьпяшаюцца. Хто цягне вялікі, прамокшы вадою бохан хлеба, хто нясе ўкручанае ў зімовую коўдру дзіцянё з ясьляў. Аб існаваньні разьмеркавальніка мала ведаюць.

У каго запытаеш, адказваюць неахвотна, наляту: „Ня ведаю“ або—„Недзе тут“.

Але нарэшце кінуўся ў вочы 2-павярховы будынак. „Мусіць, гэта разьмеркавальнік“, думаю я, але тут-жа мільганула шыльда з надпісам:

„Малочная ляборатория вэтэрынарнага інстытуту“. Праходныя дзьверы ніжняга паверху завалены кавалкам вялізнага дрэва.

„Тут ходу няма!“ — чуецца зьверху піскліві голас худзенькай жанчыны.

І прыветны вузкі панадворак, абгароджаны разбураным плотам, вядзе мяне ў памяшканьне. Сьвежы пах яды прываблівае ў цёмную невялікую кухню. Ля пліты стаяць два шустрыя хлопчыкі гадоў 11-ці і 15-ці. Яны клапатліва глядзяць у кацёл кашы. Яны кінулі незнаёмцу халодны погляд і зноў прыняліся за справу. Побач з дзяцьмі стаіць, нагнуўшыся ля карыта, у старой адзежы, з вільготным ад поту тварам жанчына. Яна мые кашулю, яна-ж і кухарка, папраўляе работу сваіх „пavароў“.

Ня ўчуць задорнага дзіцячага сьмеху. Ціха, як быццам ў гэтым памяшканьні няма жывых людзей. Праз некалькі хвілін ціха, па адным, выходзяць дзеці. З сур'ёзнасьцю дарослых перакідваюцца гіронічнымі поглядамі ў мой бок.

„Дзеці, як прайсьці да загадчыка?“— пытаю.

„Да загадчыка?“—з жывымі, чорнымі вачыма пытае хлопчык.—„Вунь ён!“

Праходжу ў суседні пакой. Тут некалькі хлопчыкаў стругаюць. Падлога укрылася шчыльнаю коўдраю стружак.

Паказалася постаць пажылога чалавека, зьлёгку саромяючыся, яна павярнула да мяне. Ён няпрыкметна абціраў свой старываты касьцюм ад назойлівых апілак.

— Гэта я кірую, па сваёй ахвоце, такарнай майстэрняй — кажа Варфаламей Іванавіч (так звалі загадчыка). Твар яго пры гэтым павясялеў. У нас яшчэ ёсьць майстэрня шаўцоў, ёю кіруе інструктар,— працягвае ён:—З дзяцьмі праводзяцца школьныя заняткі. Але да вучобы яны адносяцца не асабліва.

За прысадзістым сталом сядзяць дзеці, з імі вядуцца заняткі па матэматыцы. Ля дошкі на дыбачках стаіць адзін выхаванец. Ён разьвязвае задачы на дзесятковую дроб. Некаторыя пазяхаюць, яны гэта ўжо ведаюць, а другія зьдзіўлена пазіраюць на сваіх „вучоных“. У дзяцей вялікая цяга да вытворчасьці.

— Я ўцёк з дому, пабіўся з мачыхаю. Вельмі яна дрэнная, мучыла мяне голадам,—заяўляе 15-гадовы Алёша.—Уцёк і сказаў, што пакуль не абсталююся, яны пра мяне нічога ня будуць ведаць. Цяпер я-б хацеў вярнуцца дамоў, але бацька беспрацоўны,—з жалем адзначае Алёша.—На завод яму папасьці не ўдалося, блукаўся ён па вуліцах, пакуль яго з саюзу ня прывёз у Віцебск член Акрвыканкому.

Большасьць праходзячых праз разьмеркавальны пункт—гэта дзеці рабочых і сялян, якія ня маюць у большасьці бацькоў або ўцяклі з дому з прычыны цяжкага становішча і няўвагі з боку бацькоў. З 150 чалавек, якія былі месяц у пункце, дзяцей гандляроў было 5 чал., папоўскіх дзяцей—1. Апошняга дзеці звалі сьвятым бацькам. Служачых—2, астатнія—дзеці рабочых і сялян. Апроч бяспрытульнікаў, на разьмеркавальным пункце знаходзяцца правапарушальнікі. Больш заядлыя з іх на пункце не застаюцца. Прыдуць, паглядзяць, і—не пасьпееш азірнуцца,—іх ужо няма. За год уцякло больш 20 чалавек. Гэткую-ж мэту ставіць перад сабой Грыша. Ён ужо ў трэцім горадзе. „Я падмацуюся і далей пайду“,—заяўляе падарожнік. Большую частку дзяцей удаецца вярнуць у працоўную сям'ю.

—Я пайду на сход,—заяўляе хлопчык, на погляд гадоў 11-ці. Але яму ужо 16 г. Ён працуе ў пасадачнай прамысловасьці.

Старанна кладзе гэты „рабочы“ пару ахварбованых яец.—„Гэта я прыгатаваў к сьнеданьню“,— кажа ён з упэўненасьцю ў сваю рабочую заслугу.

На вытворчасьці працуе яшчэ цяпер 3 чалавекі. З рэшты ўжо на вытворчасьць вызначана 20 чалавек, 40 перадана ў дзіцячыя дамы, каля 20 адпраўлена да бацькоў.

Бываюць выпадкі, калі дзеці зьвяртаюцца з дому, не знаходзячы там патрэбнага прытулку. Загадчык з ганаровасьцю зачытвае паштоўку, прысланую яму адным выхаванцам, які цяпер канчае ткацкі тэхнікум; у гэтай паштоўцы ён дзякуе сваім настаўнікам за тое, што яго вярнулі да працы. „Але паставіць іх на ногі,—кажа Варфаламей Іванавіч, — справа вельмі цяжкая“. Разьмеркавальнік працуе ў вельмі цяжкіх матар‘яльных умовах.

Адзел Народнае Асьветы ўтрымлівае толькі 10 дзяцей. Крыху сродкаў бярэм ад таварыства „Прыхільнік дзяцей“. На гэтыя сродкі можна ўтрымаць чалавек 20.

У васеньні і зімовы час у разьмеркавальніку бывае 30—35 чалавек; тады дзецям прыходзіцца спаць па 2 чалавекі на адным ложку. Цяжка прыходзіцца з ядой. Кепска ў разьмеркавальніку з кватэрай. Дзеці туляцца ў 2-х пакоях. Шчыльна прыцісн уліся адзін да другога 20 бедна прыбраных ложкаў. Спальня цёмная. Па кутках уецца павуціньне. Наконт коўдраў таксама слаба. З пасьцельнай бялізнай яшчэ сюды-туды: маецца дзьве з паловаю пары на дзіця.

Ня лепшы малюнак прадстаўляе сабою сталоўка. Тут-жа клюб і тут-жа праводзяцца школьныя заняткі. Паветра ў гэтых пакоях напоўнена гнільлю. Праўда, аб чыстаце шмат гавораць у прыёмніку, маецца санітарная камісія, але дзяцей трудна прывучыць адразу к чыстаце, хоць у прыёмніку існуе поўнае самаабслугоўваньне. Працаўнікоў у разьмеркавальніку ўсяго два—загадчык і настаўнік, а з такімі дзяцьмі працаваць вельмі цяжка. Трэба мець падыход, і толькі тады можна што-небудзь з імі зрабіць. Увечары дзеці застаюцца з сторажам. Яму яны апавядаюць шмат тайнаў з свайго багатага здарэньнямі жыцьця.

Зімою на пункце працаваў піонэрскі атрад. Дзякуючы яму, выпушчана 2 нумары насьцен. газэты. Займаліся спортам. Цяпер атрад спыніў сваю працу. Дзеці не разумеюць, чаму пра іх піонэры забыліся, у той час, калі іх дапамога тут патрэбна. Ёсьць у прыёмніку дзяткотм. Але ён амаль не працуе. Дзеці ня ведаюць, як працаваць. Ранейшае жыцьцё палажыла на дзяцей дрэнны адбітак: калі настаўнік выходзіць, дзеці гуляюць у карты, лаюцца.

Пры пільным доглядзе за імі гэтыя моманты можна папярэдзіць.

**Дварсон.**



**Бяспрытульныя.** У памыйнай яме шукаюць спажывы.




## ЛІСТЫ-ПЯКУЧКІ ВОЖЫКА-КАЛЮЧКІ.

1.

Нядаўна хадзіў я ў Чапліцкі сельсавет. Паслухайце-ж як там піонэрыя жыве. Ані-ні хлусіць я ня мушу: „Комсамольцы піонэраў цягаюць за вушы, чуць што крыху скажаш ня так, дык комсамолец „апляушыць“ цябе так, што і сьвету ня ўбачыш. Разбойнік—ня іначай.

І дашчэнту зьдзівіўся я: з піонэрам комсамолец стаяў, гаворацЬ, сьмяюцца, ну-люба. (Было ў вясковым клюбе). Але гэта было да-часу. Потым комсамолец, як скрывіць грымасу, як схваціць піонэра, як дасьць у сьценку ілбом, той, мусіць, астаўся бяз зубоў... Падыходжу да комсамольца і пытаю: „Чаму ты так яго пхаеш, ён-жа, мабыць, ня так і вінават?“ „А што? ён мне ня і брат, ня сват, а так і трэба свавольцу. Што яго за справа, што сьпіць павадыр — комсамолец?“ Я з клюбу—уцякаць, бо гатоў і мне па карку даць. І ад злосьці чуць ня ляскаў зубамі, спатыкаючы піонэраў з разьбітымі ілбамі.

2.

А вось мо' хто ведае вёску Бяседавічы? Там дык справы другія: комсамольцы людзі не благія і маюць добрую натуру,—выпісваюць піонэрам літаратуру, і нават часопіс „Беларускі Піонэр“. (Добрыя людзі—павер!). Паглядзеў я і вельмі быў рад,—добра жыве Бяседавіцкі атрад! Прыходжу ў клюб я гэта. Усе сядзяць і чытаюць газэты, іншыя гуляюць у шашкі. Вось тут дык добрыя замашкі. Пахваліў я піонэраў і павадыра, а выходзячы нават крыкнуў—ура!

3.

А дзеці ў вёсцы Русакох разьвешваюць лістоўкі. Не падумайце, што кагосьці клічуць да забастоўкі. Аб гэтым, брат, і не гавары: яны на дрэвах, на гладкай кары, напішуць, тварыша апаганяць (ну, вядома—хуліганяць), потым зьбяруцца і з напісанага сьмяюцца. (Дурныя, яй-права). Ну, дык і я заняўся такой справай, толькі інакшага манеру: я пішу на паперы і ў рэдакцыю шлю,—і русакоўцаў калючкай калю.

А вось яшчэ некалькі малюнкаў пра дрэнныя ўчынкі-варункі. Абмалёўваецца Янка-галавацяп—і малюнкі ўзяты, бязмоўна, з жыцьця.

Раніца. Восем гадзін. Пятрусёў Янка, (піонэр адзін), якога мы яшчэ ня ведаем, сядзіць за сталом і сьнедае. Насупраць сядзіць матка і бацька.

— Пара, Янка, у школу зьбірацца! Дапівай хутчэй чай,—калі то сьнедаць пачаў; засядзішся і спозьнішся ў школу.

А Янка невясёла і квола спакойна чай дапівае, а потым паліто надзявае, бярэ шапку, з кніжкамі папку, у сшытак паглядае, потым левую рукавіцу шукае, потым успамінае, што ў кнігах чагось не хапае і, забыўшыся на рукавіцу, лезе кудысь на паліцу.

— Ты ня спозьнішся?—пытае матка ласкава.

— Ну, гэта не твая справа!—адказвае Янка з павагай, не зьвяртаючы на матку ўвагі.

І толькі калі бацька ў справу ўмяшаўся, Янка ў школу пасьпяшаўся, бо калі станеш спрэчку з ім заводзіць, то вушам пашкодзіць.



Цяпер другі малюнак пачынаецца: Янка са школы вяртаецца. Бацька на працы, а матка—як матка: толькі і спраў—наводзіць дома парадкі. Янка прыбег, кінуў кніжкі насьпех, не ска-

заўшы і пары слоў, уцякае з хаты кудысьці зноў. Матка тут стала прасіць, каб Янка памог дроў нанасіць. Але Янка матцы тлумачыць, што зьвеньневы збор назначан і ён памагчы ня можа, а ў другі раз паможа.

У трэцім малюнку мы пагаворым, што робіць Янка на зьвеньневым зборы. Там ён устае і гаворыць, што піонэры—ваякамі за новы быт павінны быць. І прывучваць к новаму парадку ўсю сям'ю, у асаблівасьці-ж матку. Што піонэрам - распусьнікам ня трэ' звацца, а памагаць хоць чым у гаспадарцы. і клапаціцца, каб у хаце другія маглі новаму быту навучыцца.

І пайшоў, і пайшоў, і пайшоў...

Такую гарачку разьвёў, што, здаецца, старому быту быць на гэтым зборы забітым...

Вельмі прамоўца харошы. А вось дома, ня зьняўшы галёшаў, прэ праз усю хату ад парогу, грыміруючы прыгожай хварбай падлогу. І хоць-бы ў галаву прышла думка, што поту згубіла матка многа, шаруючы з гадзіну падлогу.

Крычыць, мілы, што „заўжды гатоў!" а вось ня мог матцы нанасіць дроў.

Паслухаць, як ты разьліваешся, дык, мабыць, і ўсё жыцьцё не здагадаешся, што ня слухаешся бацькі і маткі, і ад працы ўцякаеш ва ўсе лапаткі. Чуў, што ў цябе збор, нарада, павазіцца на лыжах ты рады, і дармо, што ты гаворыш прыгожа і чотка, але цябе можна назваць піонэрскай трашчоткай.

Глянеш на цябе дома,—чуць не старшыня Саўнаркому, глянеш на цябе зблізку,—ты ня варт ад гнілога яблыка агрызка.

Няхай-жа сябры знаюць, якія на сьвеце „Янкі" бываюць, і такіх „Янкаў" у нас хватае, хай-жа кожны гэта прачытае і добра праглядзіць, ці такі Янка ў вашым атрадзе не сядзіць?

**Тып павадыра.**



*Вы з мяне прыкладу не бярэце: бачыце, выхоўваўся я пры гідры капіталізму.*

**А яны сьпяць.**

Іду ў вёску Худаўцы. Аж і тут атрад ледзь зводзіць з канцамі канцы. Прыходжу ў атрад. Там усе сьпяць, я гэта стукаць, гукаць. А яны сьпяць, бы прадаўшы пшаніцу, і павадыру, мусіць, нешта сьніцца, спрасоньня ўспамінае ячэйку, сакратара...

А ўжо праходзіць каторая пара. Я ля дзьвярэй стаю, як сабака. А павадыр сьпіць, толькі піонэры прачнуліся, навокал азірнуліся. Я да іх: „Адчынеце, кажу, яй-права! Што гэта за справа? Зусім ня варта нікуды!" Як прачнецца-ж павадыр, і да дзьвярэй скарэй. Адчыніў. „Што гэта за сваволя?" ды аб мяне нагу як уколе! Пазнаў. Спужаўся дазваньня, бо ў часопісі чытаў аб маім вандраваньні.

„Ах, а я вас і чакаў!"

Я ўсьміхнуўся і пажадаў загаіць у працы балючкі, тады магу зьняць свае калючкі.



# ЦІ ВЯЛІКІ СУСЬВЕТ?

Сучасная астраномія больш за ўсё цікавіцца зоркамі. „Цяпер,—кажа вядомы сучасны ангельскі астраном Джынс,—астраномія вышла за межы таго камячка пылу, які мы называем сонечнай сыстэмай, і хоча абхапіць сабою ўвесь сусьвет.

Калі для грэцкай астраноміі велічыня сусьвету толькі ў няшмат разоў была большай за Зямлю, а з часу Каперніка яна (гэта велічыня) пашырылася да разьмераў сонечнай сыстэмы, дык і цяпер з кожным годам гэтыя разьмеры робяцца ўсё большымі і большымі.

Толькі ў 1838 г. нямецкі астраном Бэсель упяршыню вызначыў адлегласьць ад аднэй з бліжэйшых да нас зорак. Гэта зорка ледзь прыкметна для вока і знаходзіцца ў сузор'і Лебедзя (61 Лебедзя). Бэсель на працягу году вымяраў адлегласьць гэтай зоркі ад двух маленькіх зорачак, якія былі відаць зблізку.

Пры гэтым выявілася, што гэта зорка апісвае на небе невялічкі выцягнуты кружок, разьмерам каля ½ дугавой сэкунды. Што гэта азначае? Гэта азначае, што дзякуючы таму, што зямля пераносіцца ў прасторы, круцячыся вакол Сонца, на 300 мільёнаў кілёмэтраў, зорка перасоўваецца адносна другіх, яшчэ больш далёкіх зорак, на шырыню воласа, які мы разглядаем на адлегласьці 40 м. (60 шагоў). Велічыню гэтага перасоўваньня нельга ўбачыць простым вокам. Аднак Бэсель, вельмі выдатны астраном, гэту велічыню вымераў. Ён знайшоў, што гэта зорка знаходзіцца ад Зямлі далей, чым Сонца, у 400.000 разоў.

Калі мы ўявім сабе, што зямля і Сонца зьменшыліся да нябачных для вока кропак і Зямля верціцца па крузе, які роўны акружыне саракоўкі (г. зн., што ад Зямлі да Сонца адлегласьць раўняецца 1 см.), дык гэта зорка будзе знаходзіцца ад нас на адлегласьці ў 400.000 см., або 4 км.

І гэта адна з самых „блізкіх“ да нас зорак. Вось як далёка ад нас гэтыя зорачкі, якія мітусяцца сваім сьветам на небе кожную ноч.



Мал. № 1.

Звычайна міжзорныя адлегласьці вымяраюцца асобнымі адзінкамі, якія называюцца „сьветавымі гадамі“.

Пад сьветавым годам разумеюць тую адлегласьць, праз якую можа сьвет прайсьці за год; а вядома, што за сэкунду сьвет праходзіць 300.000 км., г. зн. сьвет за сэкунду 6 з лішкам разоў можа абегчы вакол земнай кулі.

Прастора сьветавога году раўняецца 100.000.000.000.000 км., г. зн. 100 трыльёнау кілёмэтраў.

Адлегласьць ад нас да зоркі 61 Лебедзя раўняецца 6 сьветавым гадам, г. зн., што толькі праз 6 гадоў можа дайсьці туды сьвет, і наадварот.

Навука выясьніла, што ўсе зоркі, якія мы бачым, складаюць адно згуртаваньне зорак, якое мы называем у астраноміі сыстэмай зорак „Млечнага шляху“ (галакціка). Гэта ўсё тыя зоркі, якія мы бачым простым вокам і ў бінокаль.

Гэта згуртаваньне ўвогуле мае такую форму, як дзьве глыбокіх талеркі, зложаныя сваімі краямі. Уся гэта прастора напоўнена зоркамі, якія знаходзяцца адна ад другой на адлегласьці ў дзесяткі сьветавых год. Колькі тут зорак і як вялікі разьмер гэтага згуртаваньня зорак?

Зорак, якія ўваходзяць у згуртаваньне Млечнага шляху, прыкладна 1—2 мільярды, а дыямэтр (прастора ад аднаго канца да другога) згуртаваньня мае каля 100.000 сьветавых гадоў.





Наша зорка—Сонца — знаходзіцца прыкладна ў сярэдзіне гэтага згуртаваньня зорак. Такім чынам адлегласьць ад Сонца да краю зорнага згуртаваньня налічвае прыкладна 50.000 сьветавых гадоў.

Калі мы адлегласьць Зямлі ад Сонца умоўна прымем за 1 см., дык адлегласьць да Млечнага шляху будзе раўняцца 30.000 км., г. зн. тры земных дыямэтры.

Уся гэта вялізарная прастора ўсеяна зорамі, пры гэтым ад аднэй зоркі да другой сьвет ідзе, як мы казалі ўжо, у сярэднім дзесяткі гадоў.

Вось які вялікі той куток сусьвету, які мы бачым, калі любуемся зорным небам.

Тэлескоп (астранамічная прылада) і фотоапарат адчыняюць нам на небе, апрача зорак, тысячы слабых туманных плямаў, гэтак званых сьпіральных туманнасьцяй (мал. 1).

Сучасная астраномія лічыць, што гэтыя туманнасьці прадстаўляюць з сябе згуртаваньні зор, якія зьліваюцца ў адзіную сьветлую пляму дзякуючы таму, што яны знаходзяцца ад нас яшчэ далей, чым самыя далёкія зоры. Сапраўды, нядаўна амэрыканскі астраном Рычы на здымках некаторых з гэтых туманнасьцяй, зробленых самым магутным сучасным тэлескопам, знайшоў да 2.000 сьветлых точак, вельмі падобных на зоркі.

Можна думаць, што гэтыя туманнасьці прадстаўляюць з сябе тую „майстэрню“, дзе вырабляюцца зоркі, і што ў канцы свайго разьвіцьця яны вельмі падобны на наша згуртаваньне зор — Млечны шлях, аднэй з зорак якога зьяўляецца Сонца.

Зоркі вырабляюцца ў туманнасьці цэлымі мільярдамі адразу.

Як-жа далёкі ад нас гэтыя самастойныя зорныя згуртаваньні, гэтыя новыя „Млечныя шляхі“, якія ня маюць ніякіх адносін к нашаму зорнаму згуртаваньню—Млечнаму шляху?

Былі спробы ацаніць разьмеры гэтых другіх ячэек сусьвету і іх адлегласьць ад нас.

Іх разьмеры вымяраюцца дзесяткамі і сотнямі тысяч сьветавых гадоў, а адлегласьць ад нас—многімі мільёнамі сьветавых гадоў.

Туманнасьці, паказаныя на мал. 2, ляжаць вельмі блізка адна ад другой на невялікай прасторы неба між сузор'ямі Волосы, Цэронікі і Дзевы і да іх, па думцы астраномаў, ня менш 10 мільёнаў сьветавых гадоў!

Вось які вялікі той „сусьвет“, з якім знаёміць нас сучасная астраномія!

**Д. Д. Галанін.**



ЦАНА 12 кап. 860

# ПАДУМАЙ.

## Загадкі - жарты.

1. Які ком папярок горла капіталістым стаў?

2. Хто сьпяшаецца сам сябе пахаваць?

3. Якія чатыры літары нялюбы буржуям?

4. Што нэпману гарчэй рэдзькі?

5. Хто сільнейшы: чалавек ці машына?

6. Стану—вышэй каня, лягу—ніжэй ката.

---

## Нашы гульні.

### 1. Бондар і клёпка.

Станьце шчыльным колам тварам да сярэдзіны. Схавайце рукі за сьпіну. Я—бондар, а вы—клёпкі ў бочцы. Я бегаю за кругам і б'ю каго-небудзь па руцэ (выбіваю клёпку) і бягу далей. Выбітая клёпка зараз-жа бяжыць за кругам, у другі бок (мне насустрэч). Кожны з нас—імкнецца стаць на месца, якое толькі што аслабанілася. Хто спозьніцца—будзе бондарам і таксама будзе выбіваць клёпкі.

Правіла гульні: не хапацца за ўдзельнікаў гульні, не ўбягаць у круг.

### 2. „Газэтчыкі".

Пастаўце ўсіх парамі, пара за парай Дайце кожнай пары назву газэты ці часопісі („Зьвязда", „Чырвоная Зьмена". „Беларускі Піонэр", „Пионер", „Пионерская Правда", „Правда"). Назвы могуць паўтарацца.

Прапануй усім запець песьню, які-небудзь музыка будзе яе граць, і вядзі калёну за сабой. Па твайму сьвістку, усе бягуць да сярэдзіны і гучна называюць газэту, альбо часопісь, адшукваючы сабе новую пару. У гэты час ты становішся збоку і падымаеш руку ўгару. Новыя пары, якія стварыліся, становяцца за табой, і марш аднаўляецца. Па шляху можна рабіць рознастайныя рухі.

## Задача.

### Правідловая памылка.

Піонэрка-батрачка займалася ў школ па ліквідацыі няпісьменнасьці. Ёй был дадзена задача: падзяліць некаторы лі на два і да атрыманага дадаць шэсьц Але піонэрка памылілася і першы лік н падзяліла, а памножыла, а другі не д дала, а адняла. Ня гледзячы на гэта, ад каз у яе атрымаўся правільны. Які лі ёй патрэбна было дзяліць на два?

---

### Задачка.

Напісаць шэсьць слоў, азначаючых:



1) Частку цягніка
2) Назву варот
3) Частку чоўна
4) Назву пражы
5) Плянэту
6) Расьліну ў лесе.

Найдзеныя словы паставіць па чарз адно пад другім у намалёванай фігуры тады, чытаючы сярэднія літары зьверх ўніз атрымаем прозьвішча вядомага бе ларускага пісьменьніка.

### Задачка.




З дадзеных кавалкаў злажыць сымэтрычную фігуру, у якой можна-б было прачытаць назву старонкі нашай часопісі.

## Жарты.

### Зубы.

— Слухай, хлопча, — кажа настаўнік вучню,—ведаеш колькі зубоў мае чалавек?

— Поўную губу.

Друкарня „БДВ". Заказ № 600. У ліку 1650. Галоўлітбел № 264.